# Рунь

БЕЛАРУСКАЕ ЛІТЭРАТУРЫ І МАСТАЦТВА.

Выходзіць ў Менску штотыдзень.

Цана сшытку 5 м.
Падпіска на 1 м-ц з перасылкай 20 м.
На 3 м-цы 60 м.

Год выд. I.
№ 4
23 мая 1920 году.

Рэдакцыя: Кашарская 10, кв. 5. Адчынена 10—11 г. раніцы.
Адміністрацыя: вул. Міцкевіча, «Беларускі Дом». Адчынена 9—3 г. удзень.
Рукапісы назад не выдаюцца.
Аплата прынятых рукапісаў і рысункаў залежыць ад рэдакцыі.


## У кавалёвай хаце.

### Драматычны абразок у аднэй дзеі.

...но песьню, паднімаецца заслона. Даносіцца звон ...ных аб жалеза малатоў. Праз замерзшые шыбы ...біваецца у хату бледнае сонцо. Анеля і Кабеціна прадуць.

Кабеціна (пяе):

Ці у полі, ці у полі ні бярозка расла,
Ці у полі, ці у полі кучаравая была.
Яе ўзялі, паламалі,
У пучочкі павязалі.
Мусіць трэба было.

Анеля. Ой, сястрыца, годзі! Ня пей гэту ...ьню—вельмі жаласная, так неяк маркотна ро...ца ад яе, што я заўсёды плачу. Проста—такі ...а як нажом сэрцо рэжа.

Кабеціна. А мне нічагусенькі, я так ... з тугой зжылася, што без яе, то як-бы і адзі...на. Да душы, праўда!

Анеля. Ат! Глупства гародзіш. Кожнае ... пераходнае.

Кабеціна. Ды і ня так думала. Жда... ці ведаеш, ждала. Ну, думаю, пераменіцца, ...-жа ўсё горш і горш, бяда на бядзе едзе, бяда ...ой паганяе.

Анеля. Ох, міленькая! Каму лёгка жы...ца? Кожны валоча свой хамут. Вось хоць-бы я? ...агу найгоршаму не жадала-б.

Кабеціна. Ты кажаш: табе трудна. ...нь, мы з табой адналеткі, а куды ж мне да ця... як шэрай сухастоіне проціў кучаценькай са...ды. Ад ветру хістаюся, туман сьцежку зась...е.

Анеля. А ты сама вінавата—трэ' было выходзіць за такога душагуба.

Кабеціна. Што ты кажаш, Анелька!? ...ка ня йсьці?.. Божухна мой! я-ж на яго гля...ь не магла. Як сустрэнеш, бывала, так і за... сэрцо. Ой, чула, ой, ведала я гэту напасьць, ... бацькі, хай ім Бог даруе, гонам выгналі з ха... ідзі ды ідзі, кажуць, гэта тваё шчасьце. Ня шу..., не жадала я яго, а ён—каб ты ведала—дык ... заезьдзіў, валочачыся да мяне; прысягаўся, ...най, зоранькай яснай зваў, а цяпер я ў яго: ... няшчасная, зьмея падкалодная; б'ець, як ...днае стварэньне, хваробу ўбіў, атруту ўліў у ... кроў, зьняважыў маю красу. Анелька, трудненька мне, ой, як трудненька! Каб хоць я магла праклінаць яго, мучыць, забіць, каб магла уцячы хоць куды, хоць на дно ракі... Але-ж не магу, так ужо замарнела, зьнядужала,—ось, як учадзеўшая, хаджу, у вачох неясна, здаецца, вось-вось хістануся і паляту ў бяздоньне... (Апёрлася на калаўрот—тужыць. Заходзе сонцо).

Анеля. А, вось, ужо і сонцо заходзе.

Кабеціна. А праўда—заходзе! Час ужо да хаты мне ісьці. Але як крывава заходзе!

Анеля. Вецер, пэўне, будзе.

Кабеціна. Малы цяпер дзень. Калядніцай, дык з кута ў кут і вечар тут.

Анеля. Ды ужо-ж!

Кабеціна. Ну, трэба зьбірацца... А мароз, відаць, яшчэ паправіўся. Ведаеш, Анелька: я ў цябе астаўлю прасьніцу і калаўрот, а заўтра так-сама прыду на попрадкі. Добра?

Анеля. А як сабе хочаш, так і рабі.

Кабеціна. Чаго ты сярдуеш?

Анеля. Ды як-жа не сердаваць... Каб ён, прападаць яго галаве, ні за што, ні праз што жыўцом гнаў у магілу—ніколі, кажу табе. Калі яму трэба мая сьмертухна, то ужо разам ляглі-б у дамавіну. Вось як! такая я ўжо удалася. Што гэта я якомусь асталопу на зьдзек радзілася, ці мне жыцьцё ня міла? Эх, даражэнькая мая, вазьмі ты чапялу ў рукі ды цыкні разок, другі на свайго мужыка, а пабачыш—на цыпачках стане хадзіць.

Кабеціна. Не, Анелька, не магу. Куды ўжо мне!..

Анеля. Ну, я не з такіх—калі добра, то добра, а не, то...

Кабеціна. Ой, не кажы гоп, не пераскочыўшы... Ну, дык да заўтрашняга, Анелька! (Выходзе).

Анеля. Усяго... Трэба і мне ўжо кінуць... Напрала я поўную шпульку, работа мая спорная, нітачка мая роўная, чыстая, як струна... Эх, усё-бы добра было, каб жаданае збывалося. (Парадкуець прасьніцу, пасьля падходзе да печы). І печ ужо астыла... Але-ж сьцюжа якая, мароз аж трашчыць!.. Тата лысы—трэсьні мароз, цімох лысы—трэсьні мароз, Шмуйла лысы—трэсьні мароз...

Кабеціна. Або! ці ведаеш, а я забылася калаўрот узяць.

Анеля. А ты казала, што пакінеш да заўтрага?

Кабеціна. Казала?! Ну, то і добра хай застаецца. Забылася я. (Выходзе).

Анеля. Ужо зьмяркае, а яе дагэтуль няма. І няўжо яна пашла маю пагібель шукаць? Вось ня чула я на сваім вяку, каб мачыха ды была добрая. Ну, але мая мачыха—дык ужо днём з агнём ня знойдзеш такой ліхадзейкі. (Пяе: Ці у полі, ці у полі... Прарывае песьню плачам, схаваўшы твар у падушцы).

Якуб. (Уходзе у кавалёвым фартуху—прыслухіваецца. Пачынае плакаць, дражнячы).

Анеля. У цябе, Якуб, сэрцо з каменя. Табе усё жарты.

Якуб. Чым-жа сьлёзы асушыць, калі ня жартамі?!

Анеля. Якіе тут могуць быць жарты, калі вось мачыхі дагэтуль няма?

Якуб. А ты што—замаркоцілася па ёй?

Анеля. Хоць і грэх, але да душы жадаю, каб яна дзе замёрзла у дарозе. (Маўчанка). Сваты, пэўне, хутка прыедуць.

Якуб. Сваты, кажаш, прыедуць? так... Але вось мой партабак недзе закаціўся і ніяк не магу знайсьці. Запеплі ты, Анелька, лямпу. (Анеля паліць лямпу). Цёмна тут... і дзе ён запрапасьціўся? Ага, вось нашоў.

Анеля. Ды гэта-ж папіросьніца!

Якуб. А я, як казаў?

Анеля. Партабак.

Якуб. Магчыма! Думаеш аб адным, а кажаш аб другім... Паслухай, Анелька, птушачка мая, ці ты калі пробавала думаць аб тым, што табе добра было-б замуж выйсьці, бо табе тут ня жыцьцё, а я цябе люблю і мне цябе шкада? Мачыха твая, бачыш, ведзьма, яе толькі памыць і павесіць, каб высахла, а бацька, так-сама, добрая ягадка і танцуе пад дудку мачыхі. За табой хлопцы шнурам, дык выходзь замуж—я табе кожны дзень аб гэтым кажу.

Анеля. І кожны дзень мяне дабіваеш. Вось даў-бы лепш што кольвечы адразу, каб ня мучыцца, бо мне або з табой жыць, або сьмерць. Вось як!

Якуб (у задуме). Праўда, каб ня мучыцца, мо' гэта і лепш... Эх, Анелька, думаеш мне лёгка табе гэта казаць. Вось скажу, а у сярэдзіне так і і зашчымліць, так і гарыць полымем. І сумысьле я аб гэтым кажу, хай баліць, хай разьядае нутро маё—так мне і трэба. Ох, мукі! Ты ведаеш, бацька твой, гэтая плюгавая казяўка, глухі чорт, вось дзьмухнуў, здаецца, і паваліцца, а глядзі як ён мною камандавае—ён выгнаў мяне цяпер з кузьні, кажучы: „Ідзі, зломак, і скажы Анелі, каб яна цябе выкінула з галавы і хай не бядуе, бо мачыха ёй прыдбае жаніха ды яшчэ не абы якога!". І гэта, усё за тое, што я памыліўся ударыць малатком. (Злосна). Не! гэта ня хутка кончыцца, ня стрываю я такой паняверы, катаргі. Я ў яго горш, як падданы, як сабака. Ен, як пьяўка, ўпіўся ў цело маё і пьецъ прагавіта кроў. Забіць толькі гада, адзін паратунак.

Анеля. Ціха, Якуб, аж мне жудка стала! Няможна так. (Чуваць стукат у вакно і гнусавы голас: Якуб!).

Якуб. (ускочыў стрывожаны, кінуўся да дзьвярэй і вярнуўся). Зараз. зараз! Ох, не магу! што мне рабіць? Зьняволіў ён мяне.

Анеля (прыгартаючыся). Пачакай. мой са-
колік, міленькі мой, хаць адну мінютачку!..

Якуб (адпіхае ад сябе). Абач, Анеля, усё-
кі забудзься аба мне, не магу я з табой жаніцц
не магу я цябе любіць, бо твой бацька ня хоча
не магу, бо я, Анелька, душагуб, душагуб...

Анеля. Ах Божа мой. што ты гэта ка-
жаш?!

Якуб (праз сьлёзы). Анелька, я ня вар
цябе, плюй на мяне, тапчы, спанявярай, я ля но
тваіх, як сабака, качаюся, бо я зьвер, душагуб.
О, вяжэце мяне, катаржніка, злодзея. Я краў др
вы у лесе... Лясьнік злавіў мяне... Я тапаром засе
лясьніка... кроў асьляпіла мне вочы, рукі абкрыва
віў... Я засек лясьніка.. А бацька твой бачыў г
та і цяпер я ў яго горш, як быдлё, што хоча, ўс
раблю, бо ён гразіць, што людзям скажа, данос зр
біць.

Анеля. Як-жа ты адважыўся, Якубка
На што было чапаць? прыхіні ка мне галоўку сваю.
развогненая яна у цябе. Ну, ня сумуй, твае горо-
мае горо.

Якуб. Не ўсьцяшай ты мяне. Нічога н
сьвеце мяне не супакое. Хіба сьмерць мая, або—яг

Анеля. Якубка, міленькі, не затоівай сваі
го граху, хай лепш дазнаюць людзі. шмат лягчэ
стане. Пайдзём, разскажам усім, а сваей бядзе,
нашых муках, а нашай любасьці. Хай судзяць. Са
шлюць цябе у катаргу і я з табой. засудзяць н
сьмерць—і я загіну, загібею... Якубка даражэньк
як я цябе бязьмерна, моцна люблю!

Якуб. Ты кажаш не таіць граху, каб лю
дзі даведаліся, што я душагуб? Не, хай лепш зна
адзін Бог! Цяпер мне усё гэта выдаецца страшны
сном, а як усе дазнаюцца, дык на кожным шаг
будуць напамінаць: ты душагуб, ты душагуб!.. Ох
аб гэтым страшна, нельга думаць... (Адсоўваецца а
Анелі). „Да сьмерці буду нясьці свой крыж, адзі
пайду сваей цярністай пуцявінкай, хаваючыся
цень, каб менш была выдатнай мая горкая душ
каб ня бачыць шчасьця людзкога... Анеля, забудзі
ся аба мне!.. (Чуваць зноў той самы голас: „Якуб
Якуб!").

Якуб. Іду, іду! Ужо! (Хапае шапку і, н
здалеушы надзець, выбягае).

Мачыха. (спатыкаецца у дзьвярох з Яку
бам; той груба адпіхае яе з дарогі). Ха-ха!.. напужа
ла я вас, галубкі мае! Га? (Ставіць гарэлку на па
ліцы, што прынесла з сабой). Ох, і замарылася да
чыста! Мучышся, гаруеш, стараешся, ўсё для лю
дзей, а падзякі і на нюх няма. Ну, і сьвет зрабіў
ся, хай ён верх дном стане!..

Анеля. Ох, Божанька, мой Божа!

Мачыха. Пекны хлопец наш Якуб! ма
ладзенькі, як мядок; ну, ці-ж ня праўда, Анелька
Селязень ды і годзе! А ведаеш, дачушка, замерзл
я зусім... А печ сцюдзеная... Чаму-ж гэта ты, да
чушка, у печы не падтапіла? Вось, як выйдзеш
хаты, дык ніякага толку няма... Дармо, трэба был
вытапіць—табе тут цёпла было з Якубам, але
трэба думаць і аб усіх. Ня ведаю, якая з цяб
будзе гаспадыня, а ўжо замуж манішся выходзіц
аж мне за цябе сорамна.

Анеля. Ох, Божанька, мой Божа!

Мачыха. Але ты ня думай, дачушка
што я сярдую,—хавай Божа! Я ніколі на ніког
не сярдую, усе мы людзі, усе мы грэшны. А т

эсь скажы; забылася надтапіць, ось у нас і будзе сё падобраму, па згодзе. Ну, скажы, дачушка: ıбылася? Ці можа язычок зьела, ну, расчухайся. расуля!... Ой, ой, што гэта у цябе на шчоках? ажа! (Хіхоча з кпінай). Віш, шэльма Якуб сьлед ставіў. Сатры, бордзенька, сатры, бо бацька як абача, то... Дай я сатру, мне відней. Ня хочаш?.. ольнаму — воля, шалёнаму — поле.. (Анеля сама ьцірае). Ды ня сьцірай, блудніца, нічога няма, я ажартавала. Што ўжо з цябе будзе, дык я ня веаю?.. Ну, але трэба ужо ў печы тапіць... Анеля, рэ а ў хаце ўпарадкаваць, прыбраць. Маладая зяўчына, а ўсюды балото, хоць рэпу садзі. Сораму я маеш, пакуль бацьку не скажу...

Анеля. Адчапіся ад мяне! Кусаецца, як ıдзіна ашалелая. Ось, уцячы ад цябе некуды.

Мачыха. Ціха, ціха, лаяцца ня трэба, яма за што. Я табе ня вораг, калі кажу што, дык а тваю карысьць. Ня злуйся, вось схадзі лепш, ачушка. ў сад, малінналамі. Трэба папарыць, а э катар сьцісную грудзі, дыхаць не магу. Толькі, алі ласка, не праставалосай... на, маю хустку, Анеля скідае хустку і выходзе. Мачыха паднімае устку і гразіць усьлед Анелі)... Я цябе акелзаю! удзеш ты у мяне па нітачцы хадзіць. (Падтапліае ў печы. Брэшуць сабакі. Мачыха глядзіць то у эдно, то у другое вакно). Няма!.. Прыдзе, ня дзезеніца, бо за яго боўдзелу дурнога... (Уходзе Анея і кідае галіны малін мачысе). Дзякуй табе, даушка, будзем лячыцца. Запару мо і ты выпьеш, о яно калі не памагае, то і ня шкодзе.

Анеля. Лепш атруту дала-бы.

Мачыха. Чаму ты сягоньня такая хмуная? Плюнь, дзяўчына, ўсё балазе будзе. Я цябе я дам скрыўдзіць.

Анеля. Вось крывіць душой, вось крыіць. Добра кажуць, што крывое коло на сябе баото кідае.

Мачыха. Ну весялей, весялей, дзяўчына! Зось аладак напячом, яешню трэ прыстроіць, каб олькі—раз-два і гатова! ня люблю, калі работа рук валіцца. Я і кварту гарэлкі раздабыла—бузе баль. Табе, здаецца, ужо я казала, ці не? Сюды утка, бачыш, прыедуць на агледзіны: кавалер ой, што бацька табе усё навязавае. Ен то мне неаўспадобу, ну, але бацька...

Анеля. Ды што там бацька, бацька! Саа выкапала яго на маю пагібель, каб цябе!..

Мачыха. А хоць бы і сама, дык ці-ж я я бачу, што табе час замуж, што ты сьпелая, як іпанька, аж покаешся. Ну, ці-ж мне не шкада, то такая дзяўчына і яе краса марнее, гальчэе ут між старыкоў: Трэба замуж... Эх, усіх баб тааяя доля, але-ж — горка рэдзька, а ядуць, благі зауж, а ідуць. Таму лепш, таму горш, але вось кывуць, любяцца і Бога хваляць. Яно справядліва: оць за вала, абы дома ня была.

Анеля. Ну, ведама—за Якуба пойдзеш, ы ня пойдзеш, а пабяжыш... ха—ха—ха!

Анеля. А—а! Гэта табе недаўспадобу, о сама да Якуба смольлю ліпнеш, грэхаводніца!..

Мачыха. Дачушка мая, на што ён мне? У мяне, дзякаваць Богу, муж ёсьць. На што мне вой Якуб?

Анеля. Не заві мяне дачкой. Я цябе наць не хачу. Я зразумела якога ты поля ягадка. Ты хочаш мяне выдаць замуж, выгнаць з хаты, я табе на прашкодзе. Якуба хочаш любоўнікам сваім зрабіць, але, любоўнікам, здрадніца. Табе і бацька мой на прашкодзе, ты ўсё праз сон клянеш яго. Мала што ён глухі, але я яму гэта скажу. Усёй вёсцы скажу, што ты хадзіла да шаптухі па атруту для бацькі, па любчык для Якуба. Ну, што? Можа скажаш, што не хадзіла? (Мачыха кідае міску у Анелю).

Мачыха (сыкаючы). Ціха, сука, ціха!.. (Чутно званок і брахню сабак).

Анеля. Дагэтуль маўчала, а цяпер скажу сьвету цэламу і Якуб мне пасьведча...

Мачыха. Маўчы, бо задушу!.. А яго ў вастрозе згнаю, данос зраблю, што лясьніка засек, пагублю... (Сабакі ўядаюць). Ой, прыехалі... А бедная-ж галовачка мая (зьбірае чарапкі ад міскі).

Госьці (уходзе двух мужчын). Добры вечар!

Мачыха. А-а! Добры, добры!.. Неўспадзеўкі вы к нам... Ну, ці жывы, здаровы? Сядайце, калі ласка, вельмі рады. (Сьцірае лаву). Што чуваць? а мы дык зусім не спадзяваліся... Тут з Аняляй усё аб гаспадарстве, аб клопатах сваіх... Ну, дачушка, частуй гасьцей, каб хадзілі часьцей, ды пазаві бацьку, хай цешыцца, якіх нам Бог прыслаў гасьцей.

Сват. І Бог і добрые чуткі аб вашай падчарыцы.

Анеля. Ох, ня вытрываю!...

Мачыха. Ну, а як дарога—ці добрая? (Да Анелі). Ну, не адварочавайся, пакажыся людзям, прывітайся. Дзеўка, бачыце, маладая, дык сароміцца. Усе мы такіе да замужжа. Абач, Анелька, схадзі дзетка за вадой, толькі асьцярожна каля студні, бо там коўзка і ўваліцца можна. Яна у нас і гаспадыня і работніца хоць куды, папытайце на ўакруг—першая жнея, ткальля... (Анеля, як учадзеўшая, бярэ вядро і выходзе).

Мачыха (адчыняе дзьверы і усьлед Анелі). Асьцярожна каля студні—уваліцца можна... (Да гасьцей). Ды садзецеся, будзьце як дома, зараз закусім, пагрэемся і ўсё такое.

Госьці. Ды дзякуем!

Сват. А што добрага чуваць?

Мачыха. А нічагусенькі, мае даражэнькіе. Чуваць вось тое, што нічога ня чуваць. Хлеб ядзім і Бога хвалім... Што у вас?.. А пан Ксавэры як папрыгажэў. Цьвіце, як мак!

Ксавэры (рагоча). „Папрыгажэў"!..

Сват. А чаго-ж яму хірэць? Купаецца як сыр у масьле.

Мачыха. Ведама, ведама...

Ксавэры. Ну, і напужалі нас ваўкі.

Мачыха. Ваўкі? каб іх паляруш! Дже-ж гэта?

Ксавэры. Ды у суседнім лесе. Але то стада, дык мусіць з поўкапы будзе! Ужо аж за ні чапляліся.

Мачыха (паглядаючы у вакно). Аж за ні, кажаце? Як-жа вы выратаваліся? І шчасьлів

Ксавэры. Ведама, на нашых конях каб не шчасьліва! Ха—ха!..

Сват. Балазе, што коні добрые...

Мачыха. Праўда, праўда... Але, гэтага Што я хацела сказаць?.. Выбачайце, госьцейкі, я гэтага, выскачу на хвіліну, сенца вашым коням падкінуць, і пазаву старога... Я... (Выходзе).

Ксавэры. Ха—ха—ха! Ну, ці добра?

Сват. Ат! выдумаў непатрэбшчыну.

Ксавэры. Поўкапы! Ха—ха!..

Сват. Ціха ўжо ты лепш сядзі і маўчы. А то ад тваей гаворкі сьвіньні падохнуць са сьмеху, тараканы з хаты паўцякаюць, ня то што дзяўчына. Вось пашла і не вяртаецца і мачыха знаць пабегла па яе.

Ксавэры. Толькі-ж сват скажы ёй, што яна у мяне ня будзе на печы ляжаць і нагамі малаціць, каб ня была саплівай, гамзатай і умела пасьцель мягка слаць, тлустую кашу, густую капусту варыць. Вось як, а не то я яе навучу строгай гаворкай, прыгражу лазовым дубцом. Хай знае што я ня лыкам шыты.

Сват. А, годзе табе!.. Гародзіш не да рэчы.

Мачыха (уходзячы з вядром). Рукі д... ўсяго ліпнуць—мароз. (Маўчанка). Вось я, бачыце вядро прынесла без вады, пустое... І казала ёй асьцярожна, а то уваліцца... Вы, людцы добрые дармо прыехалі... Яна у студню ўвалілася, патану... ла Анеля. Я дык ужо і ня ведаю, што рабіць.

Сват. У студню?.. увалілася?

Ксавэры. Эх, куртатае маё шчасьце (Чуваць голас: Гэй, сюды! памажэце! у студні чала... век)!..

Мачыха. Вось ужо і вёска даведалася. Да душы, не разумею, што рабіць?! І, як на бяду з панядзелку началося... ня кончыцца дабром!

Заслона.

*Л. Родзевіч.*

# Песьні на ваяцкі лад.

**(Паводле народн. мэлёдыяу).**

Передрук забараняецца.

## Будзь здаровы, бацька, маці...

(На мэлёдыю: У печы палю, бульбу жару...).

*Будзь здаровы, бацька, маці,—*
*Мы пайшлі ужо ваяваці.*
*Сьвішча куля, пяй-ха-ха!*
*Каля вуха дзяцюка.*

*Што за доля, што за воля—*
*Жаўняроньку выйці ў поле?*
*Сьвішча куля... і г. д.*

*Нам ня ўцям віхры, грымоты,—*
*Дадае нам гром ахвоты.*
*Сьвішча куля... і г. д.*

*Днём ваюем, ночкай дрэмем,*
*А што блізка вораг—кемім.*
*Сьвішча куля... і г. д.*

*Сьпім на ўзьмежжу пад ігрушай,*
*Дожджык моча, сонцо суша.*
*Сьвішча куля... і г. д.*

## Едзе Янка у поле...

(На мэлёдыю: Едзе мужык з поля, валэ паганяе).

*Едзе янка ў поле,*
*Едзе ваяваці,*
*А дзяўчына, як маліна,*
*Выйшла праваджаці.*

*Адчапіся, дзеўка!*
*Што ты ка мне маеш?*
*Бачыш, еду на пабеду,*
*А ты замінаеш.*

*Журыцца дзяўчына,*
*Што Янук пакінуў...*
*Той паехаў на пацеху,*
*Бараніць Айчыну.*

*Доўга ці каротка*
*Ваяваў наш Янка,*
*Ажно ў вёску ён дарожкай*
*Прэцца, як маланка.*

*І дамоў прыехаў*
*З тэй вайны, здалёку,*
*А дзяўчына, як маліна,*
*Пагірае збоку.*

*Падыйдзі, дзяўчынка,—*
*Ці-ж мяне ня знаеш?*
*Бачыш, еду я з пабеды,*
*А ты ані дбаеш.*

*Цешыцца дзяўчына,*
*Што Янук ня згінуў,*
*Той ураз-жа ёй і кажа:*
*Убараніў Айчыну.*

## Гэй у лесе, пры даліне...

*Гей у лесе, пры даліне*
*У нас сталася бяда.*
*Гэй, гэй, у лесе, лесе,*
*У нас сталася бяда!*

*К нам там выйшла на сустрэчу*
*Дзяўчынанька малада.*
*Гэй, гэй, выйшла, выйшла*
*Дзяўчынанька малада!*

*А мы, хлопцы, ўсе нязломкі,*
*Спадабалі ўсе яе.*
*Гэй, гэй, хлопцы, хлопцы*
*Спадабалі ўсе яе.*

*Кожны лезе пажаўнерску*
*Прытуліці да сябе.*
*Гэй, гэй, лезе, лезе*
*Прытуліці да сябе!*

*Чуць ня сталі нашы хлопцы*
*За дзяўчыну біцца там.*
*Гэй, гэй, сталі, сталі*
*За дзяўчыну біцца там!*

*Аж тут кажа камандзір наш*
*Кінуць жэрабя ўсім нам*
*Гэй, гэй, кажа, кажа*
*Кінуць жэрабя ўсім нам!*

*Хто лёс будзе мець шчасьлівы,*
*Будзе мець дзяўчыну той.*
*Гэй, гэй, будзе, будзе,*
*Будзе мець дзяўчыну той!*

*А так біцца за спадніцу*
*Не гадзіцца, дружа мой.*
*Гэй, гэй, біцца, біцца*
*Не гадзіцца, дружа мой!*

*Вось мы лёсы пацягнулі,—*
*Ах, каб цёмны на іх вір!*
*Гэй, гэй, лёсы, лёсы,—*
*Ах, каб цёмны на іх вір!*

*Самі, братцы, пасудзеце:*
*Выйграў дзело камандзір.*
*Гэй, гэй, братцы, братцы,*
*Выйграў дзело камандзір!*

Менск, красавік 1920 г.

**Янка Купала.**

# Абразкі з жыцьця Палесься.

*(Гл. № 3).*

## 5. Рэчка Лань.

Вечар хутка набліжаўся. Цямнелося, ў небе зоркі пачалі сьвяціцца усё ясьней і ясьней. У лесе замоўклі птушкі, лес як-бы зьбіраўся заснуць. Толькі ледзь чутна шапталіся меж сабой галіны... Я мінуў гумно і апынуўся на краі вады. Што тэта?—азьдзівіўся я. Адкуль тутака вада? Ось дык праяв! Але ў міг думка ясная, як маланка асьвяціла усё маё зьдзіўленьне: гэта Лань разьлілася! Памятаю, што ад гэтага хутара да рэчкі вярстоў сем а мо і болей, але вясной Лань разьліваецца і затапляе вялікі абшар Палесься. Траплялія гэтакіе выпадкі, што іншы год Лань разьлівалася так, што разьліў яе злучаўся з разьлівам Морачы і Случы і ўвесь абшар паміж гэтых рэчак быў адно моро...

Прыемным халадком веяло ад вадзь. Вялікіе сосны, акружаные вадой, стаяць ціха, як-бы баючыся зваліцца ў ваду і глядзяцца ў яе, як у вялікае люстро, у якім то там, то сям загараюцца адсьветы зорак... На колькі хватае вачэй—усюды вада... А здалёку адкульсь нясецца ледзьве чутны грукат вады... Гэта там, далёка, гдзе Лань робіць круты паварот і ломіць усё, што замінае ёй бегчы на помач Прыпеці...

Нясі-ж свае воды, быстрая Лань, нясі-ж хутчэй! Мо зноў з тваіх берагоў пачуем голас буйнай волі, як чулі яго нашы прадзеды!... На тваіх берагох радзіўся Касінскі, а яшчэ і цяперака відаць курганы ваякаў за родны край, за волю! Мо і сягоньня разьліў твой родзіць волю... Ды ляці, ляці, Лань, хутчэй! Цябе чакае Прыпець, Дняпро, гдзе ўжо змагаецца за волю сын Украіны. Ляці хутчэй! Будзі ўсіх, хто заснуў на тваіх берагох, падымай. Хай устаюць, бо час настаў—вясна прышла і—час ужо брацца за вялікую працу....

Ноч надыйшла і ня відаць ужо болей нічога, вада пацямнела, толькі зоркі з высокага неба глядзяцца ў ей ды ціхую казку шапоча цёмны лес.

Дык бывай, пакуль што, быстрая Лань! Нясі поначы свае воды, а заўтра, заўтра чуць сонца праменьні зайграюць іскравай брыляньцістай сьлязой, я ўстану і панясеш ты мяне на грудзёх сваіх туды, гдзе тарчаць з вады курганы забытых байцоў... Дык, пакуль што—бывай!

## 6. Чоўнам далей.

Сонцо ледзь усходзіло, калі Яўхім пабудзіў мяне.

— Падымайцеся, калі ласка. Ужо пара!

Я ўскочыў і хутка быў гатоў. Пасьнедаўшы, я прасьціўся з усімі, і разам з Яўхімам вышаў з хаты. Зайшлі за гумно, тамака Яўхім з-пад паветкі выцягнуў човен з крыльлямі і два вёслы. Я дапамог яму у яго працы і хутка мы ўжо сядзелі ў чоўне ды звольна плылі па нязвычайным моры якое розьлілося ад звычайната тым, што расьлі на ім сосны, елкі, бяроза ды іншые дрэвы. Праз якіх хвіль пяць я згубіў навет і кірунак і ніяк ня мог зразумець, з якога боку мы выехалі. Але прывычная і здольная рука Яўхіма круціла човен то туды, то сюды, так што мы хутка выехалі на чыстую ваду.

— Ну, цяпер ужо паедзем па сенажаці аж да сялібы Апанаса, дзе і заначуемо, стуль ён ужо павязе вас далей, а я вярнуся дамоў,—сказаў Яўхім, шпарка пагнаўшы човен.

Праменьні сонца ігралі на вадзе і залатые брызгі сыпаліся з канца вясла, калі ім узмахіваў Яўхім. Над нашымі галовамі штохвілі лядзелі качкі, гусі і іншые балотные птушкі.

— Эх, не захапіў стрэльбы—ось-бы і абед быў,—з жалем сказаў Яўхім, гледзячы усьлед праляцеўшага стадку гусей, качак. Ну, але мусіць Апанас ня сьпіць і гусяціны смажанай мы ў яго закаштуемо,—ухмыляючыся скончыў ён ды налёг ямчэй на вёслы.

Сонцо падымалося усё вышэй і вышэй і ўжо досіць добра пякло у карак. А якая пекната была плыць па ціхай вадзе! З аднаго боку сьцяной стаяў лес, адкуль нясьліся песні птушак, а з другога—кусты, за імі зноў вада, зноў кусты, зноў вада, а здалі зноў сінеў лес...

— Дзівы робіць вясна!—загаманіў Яўхім, гледзячы мне ў вочы і адгадаваючы мае думкі.

— Та-ак гэта праўда,—згадзіўся я з ім.

— Ось бачыце, каб не вада, дык цяпер трасьліся бы па грэблі і які круг давай, а то сеў ды паехаў наўпрасткі,—і ціха, і добра, і прыемна, быццам у раі.

Доўга гэтак плылі мы гамонячы з Яўхімам, раптам ён зарагатаў—і зьвярнуўся да мяне:

— А ня чулі вы калі аб тым, як думае палящук аб стварэньні сьвету і адкуль узяліся балоты?

— Не ніколі, адказаў я яму:—калі ласка, раскажэце, гэта, мусі быць, вельмі цікавая байка.

— А хто яе ведае, ці цікавая, але што сьмешная, дык гэта праўда.

— Дык раскажэце, калі ласка!—паўтарыў я сваю просьбу.

— Ну, добра, слухайце,—згадзіўся ён.

### Апавяданьне дзеда Яухіма.

— Калі нічога ня было—пачаў Яухім—ні зямлі, ні неба, а была толькі паўсюль вада,—дух Божы насіўся наўкола гэтае вады, а за ім ляцелі вялікай грамадой ангелы.. Доўга яны гэтак лёталі, ажно замарыўся Бог ды і кажа:—«Слухайце: гэтак вельмі дрэнна, няма навет гдзе прысесьці адпачыць. Гэта ня праца, а ліха ведае што». Разлаваўся ён і гукнуў ангела Гаўрылу:—„Гаўрыла!“ Той зьявіўся пяруном, а Бог яму і кажа: «Ось што, сынок: нырні ты пад ваду ды захапі у абедзьве прыгаршчы таго, што тамака знойдзеш пад вадой».—«Слухаю Божухна!»—крыкнуў Гаўрыла ды з размаху у ваду—бух! ажно брызгі заблішчэлі у паветры... Доўга плыў ён пад вадой і ўжо досіць упарыўся, калі стукнуўся носам, абшарпаўшы нос аб нешта шаршавае.—«Мо' гэта і ёсь тое, па што мяне паслаў Бог?—памеркаваў Гаўрыла і захапіў дзьве жмені, а падумаўшы троху, напхаў гэтай штукай сабе поўны рот, разважаючы: што у руцэ—гэта будзе Богу, а што ў тубе—яму, дый паплыў наверх. Выплыў, зьявіўся прад вачыма Бога, і падае яму. Узяў Бог, паглядзеў на тое, што дастаў Гаўрыла, і кажа:—«Га, ды гэта-ж зямля! Ну дык хай яна паўсюль прыбывае, тады будзе і нам на чым небудзь адпачыць». Толькі сказаў гэта Бог, як пачала зямля прыбываць, а ў Гаўрылы поўная ляпа. І вось як пачало яго перці, дык ён то плюне, то дзьмухне,—гдзе плюне—там балоты, гдзе дзьмухне—там горы.

— Ось адкуль і Піншчына завялася закончыў Яўхім, і засьмеяўся здаволены.

Сонцо ўжо было далей, як на поўдзень, а мы ўсё плылі і плылі...

### 8. Сітнягі.

Лёгкі вецярок павяваў і прыемная цеплата была ў паветры. Вялікіе стады качак пералёталі над нашымі галовамі, а Яўхім кожны раз з жальбой круціў галавой і пускаў ім усьлед:

— А каб вас агонь папаліў! дзякуйце, што стрэльбы не захапіў, а то паналётавалі-бы вы ў мяне.

А качкі, як-бы ведалі Яўхіма, жартавалі з яго, адна навет саўсім ледзь не над самай яго галавой. Яўхім ня ўстрымаўся, махнуў вяслом так моцна, што чуць човень не перавярнуўся. Весло выпало ў яго з рук, а качка толькі барджэй замахала крыльлямі, крыкнула «крак, крак» ды, адляцеўшы, шлёпнула недзе у ваду у кроках сто ад чоўна.

— А каб цябе нячыстая!—вылаяўся Яўхім і другім вяслом пачаў прыгрэбаваць першае весло. Хутка ён яго здабыў і яшчэ раз глянуўшы у бок качкі, пагразіў ёй кулаком.—Ну, шчасьце тваё, ліха тваёй матары, а то усыпаў-бы табе шроту!

Качка, як бы спалохалася лаянкі Яўхіма, заплыла за куст і там залопала крыльлямі ды галосна закракала «кра, кра, кра!»...

Вада ціха нясла нас далей і хутка перад наймі вачыма паказаўся нейкі шэры абшар.

— Што гэта: зямля, ці што? Зьдзіўлена запытаў я ў Яўхіма.

Той усьміхнуўся і кіўнуўшы у той бок сказаў:

— Гэта сітнягі—праз іх нам ехаць!

— Аа!—працягнуў я,—цяпер успамінаю, тады яны былі зялёные...

Праз хвілю мы ўжо над'яжджалі да сітнягоў, ад якіх пачуўся шум, быццам хто сыпаў на бляху гарох, але грук гэты быў беспярарыўны і асобных ударау ня было чуваць. Высахшые сьцёблы сітнягу хутка ламаліся ад напору чоўна і трэск гэты успалохіваў цэлые сотні качак, якіе з гвалтам лёталі ад нас далей. А мы ўсё пракладалі сабе дарогу сярод сітнягу і ужо ня мала яго ляжала з-заду нас, а ён усё цясьней і цясьней гуртаваўся вакола нас, як бы хацеў ня пусьціць, прагнаць вас і схаваць нейкую тайну, якая захавалася сярод яго... Але гібнуў ён пад ударамі чоўна і вясла Яўхіма, і мы плылі далей...

А якая пекната глядзець на сітнёг, калі ён зялёны хвалюецца як моро і зяленівам з цёмна шэрымі пераліваімі ходзяць хвалі адна за другой, аж так і цягне кінуцца у гэтые хвалі, зьліцца з імі у вадно.. Хто бачыў сітнягі, той мусіць ведае, які дзіўны гэта малюнак—бачыць іх упочы! Калі месячык і зоркі гараць у небе і ціха, як люстро, вада, цёмны сітнёг шапоча нейкую цудоўную казку ды здаецца ось-ось выйдуць русалкі з дзіўнымі вачыма і пачнуць віць вяночкі з белых лілеяў, а каплі расінак у іх загараць яскравей зорак у небе. Або ў душны гарачы дзень добра сядзець ў чаўне сярод высокага зялёнага сітнягу ды прыслухоўвацца да яго гоману паміж сабой; здаецца, што гавора ён нешта і чуеш душой, што ось-ось зразумееш, аб чым ён шапоча, ды не захочацца ніколі пакінуць яго, ніколі! Ось цяпер мы едзем праз яго і стаіць ён нябошчыкам і гіне пад намі, але хутка ўжо, хутка ён уваскрэсьне і стане зялёнаю сьцяною і ўсё скрые, што хаваецца ў яго...

Ось радзей пачаўся сітнёг і хутка мы апынуліся на самай рацэ. Тутака вада ішла шпарчэй... На другім беразе быў відзен на горцы невялікі белы дамок, а навокал яго стаяў лес, які прыветна шумеў і падзываў к сабе... А сітнёг стаяў ужо за намі і ціха калыхаўся шэрай хваляй, шэпчучы нам апошняе «бывай!»...

(*Працяг будзе*)

**Дзяргач.**

---

# СЁМУХА.

Яшчэ ў самые сівые часы мінуўшчыны людзі, ў нагароду за шэрые дні працы, адчувалі вялікую патрэбу уладжаваць сьвяты, абстаўленые рознымі урачыстасьцямі і абраднасьцямі. У сьвяточные дні яны прыносілі ахвяры сваім багом, маліліся ім, сьпявалі песьні, ладзілі гульні, ляпей убіраліся, сьмачней, як звычайна, елі і пілі, стараючыся

прыдаваць свайму жыцьцю хоць на кароткі час прыемную афарбоўку.

Сьвяты гэтые людзі ладзілі ў чэсьць сваіх абаронцаў—багоў, пад апекай каторых яны жылі. Людзі тады багатварылі ўсю прыроду ва ўсіх яе зьявішчах, пачынаючы ад расьлін, дрэваў, жывёлін, вады, дажджу і ветру і канчаючы нябеснымі сьвяцілами, як зоркі, месяц і сонцо.

Людзі багатварылі тую сілу, каторая прыносіць ім карысьць і паляпшае іх дабрабыт. Пры гэтым яны лічылі у іншых разох багамі і сваіх адважных вайсковых начальнікаў.

Кожны бог меў свой дзень, свае сьвято. Багоў было шмат і іх частавалі сьвятамі паводле заслугаў і уплываў, якіе яны мелі на людзкое жыцьцё.

Бацькам усіх багоў лічылося сонцо, бо людзям здавалося, нібы сонцо дае жыцьцё ўсяму на зямлі і кіруе ўсясьветнасьцю.

У кожнага племя, у кожнага народу богсонца меў сваю асабістую назву, свае асабістые малітвы, песьні і абраднасьці сьвяткаваньня. Але пакланеньне богу—сонцу на ўсім сьвеце было аднальково сільнае. Людзі пільна цікавалі за сонцам у працягу яго гадавога кругу. Уплывы яго на ўсе акружаючае і зьмены ў прыродзе ў восені і ў зіму, ў вясну і у лето багата сьвяткаваліся. А чым болей людзі пачалі займацца хлебаробствам, якое вельмі залежыць ад сонца, тым болей узмацаваўся ў іх сонечны культ, аб якім у розных народаў зложыліся тысячы розных поэтычных мітаў, казак і песьняў, прытасованых да прыроды і духу кожнага народу і племя паасобку.

Побач з багатварэньнем вечных сіл прыроды, людзі не забывалі і сябе—сьмяротных—ствары́лі культ сваім памёршым бацьком і дзядом. Яны верылі, што душы памёршых, як і сілы прыроды, ім дапамагаюць. Дзеля гэтага пры сьвяткаваньнях не забывалі і нябошчыкаў, каторым так сама прыносілі ахвяры і стараліся улагодзіць рознымі прымітыўнымі пачастункамі.

Гэткая рэлігія паміж усімі народамі зямлі разьвівалася і расла тысячалецьцямі. Ей не перашкаджала і вера ў адзінага Бога, каторую прапаведаваў Маісей і інш.

З разьвіццем веры ў адзінага Бога панавала побач і старая паганская вера, каторая не мянялася ні ў чым, апрача назоваў. Засталіся тые самые малітвы, тые самые сьвяткаваньні, дапасованые да пораў году пад уплывам сонечнага абароту, словам, тварылася старая казка на новы лад.

Тое самае было потым і з хрысьціянствам—рэформованай жыдоўскай рэлігіяй. І вось хрысьціянство ўжо пануе каля 20 сталецьцяў, а яго рытуал дапасованы да рытуалу самых сівых рэлігіяў. Хрысьціянскіе абрады і набажэнствы зьліліся з культам паганскіх вер, ствары́ўшы нешта адно. Ва ўсіх сьвятах, ва ўсіх абрадах хрысьціянскіх дух Ярылы—бога сонца жыве і па сягоняшні дзень.

Гэта злучэньне вельмі ярка вызначаецца сярод народных простых масаў. Як пастыры цэркві ні змагаліся з гэтым, прытасоваваючы свае сьвяты да часоў паганскіх сьвят, зьмяняючы назовы сьвят сваімі сьвятымі—нічога не памагло.

Як дух і традыцыі старой мінуўшчыны жывуць у нашай крыві, пачуцьцях і думках, зьліўшыся ў адно з сучаснасьцю, так сама і ўзьверхніе абраднасьці рэлігіі збратаваліся між сабой. Вось, такім чынам, ня згінулі Каляды, Радаўніцы, Русалачная і Граная нядзеля, Купальле і інш. Як жывые двайнікі, яны ідуць побач з хрысьціянствам, ня ўступаючы сваго месца ні на крок. Тым болей яны трымаюцца ў нас на Беларусі, дзе захаваліся ў чыстым відзе па сягоняшні дзень старадаўные традыцыі славянскіх плямён.

Гэткае самае сьвято ёсьць і Сёмуха—сёмы тыдзень пасьля Вялікадня, або—Пасхі (ад гэбрайскага слова „Пэсах"). Сёмуха па гэбрайску „Шовуэс", што літаральна значыць тое самае.

Сёмуха лічыцца сьвятам зеляніва і красаваньня зямлі ў самым пуку вясны. Пад уплывам старэйшых часаў яшчэ Маісей загадаў ізраільцянам сьвяткаваць гэтае сьвято вясны.

У славянскіх народаў да гэтага „зялёнага сьвята", да тыдня сьв. Тройцы належыць і паганская Русалачная, або Граная нядзеля.

На сёмуху двары і хаты, а навет Божые харамы убіраюцца зелянівам, аерам і бярозкамі—сымболем вясны, пладамі вясновага бога—Сонца, каторае ўсё яшчэ падымаецца ў гору, разсяваючы сваю чароўную, творчую моц навакол.

І як хлебаробу ў гэты час не сьвяткаваць! Поле абсеяно, агаро упарадкаваны, сад цьвіце і пахне, птушкі пяюць, пільней працы на полі няма—сама Маці-зямля сьвяткуе і радуецца.. А бог—сонцо за ўсім пагладае. Грэець, фарбуець і песьціць усю зямлю, спагадаючы шчыра працы мазалёў сялянскіх. І вось выбухло вялікім пажарышчам, агняцьветным букетам казачных красак пекнае, поэтычнае сьвято вясны—Сёмуха.

У сёмуху, як і ў кожнае сьвято, не забываюцца і „дзяды"—душы нябошчыкаў, каторых частуюць сьвяточнай ядой і пітвом. Гэты культ памёршым яшчэ болей вызначаецца ў постацях русалак, каторые, паводле народных павер'яў, ёсьць душы дзяцей, памёршые няхрышчонымі. Народ іх прадстаўляе дарослымі голымі дзяўчатамі з распушчанымі русымі валасамі.

У чэсьць русалак ладзяцца карагоды з гульнямі, сьпевамі і скокамі каля вогнішча—сымболя цяпла і сьвятла бога-сонца.

Русалачных гульняў ёсьць шмат. Звычайна дзяўчаты убіраюцца ў свае нацыянальные вопраткі з вянкамі красак на галовах. Адна з іх распускае валасы, прыстаўляючы з сябе русалку і гэткім чынам яны ловяць хлапцоў, каб казытаць іх парусалачнаму.

Вось даём пару русалачных песьняў:

Павяду русалку з бору да бору,
Ране, рана, з бору да бору (прыпеў).
З бору да бору ў зялёну дуброву,
У зялёну дуброву ў ядранае жыто.
У ядраным жыце там русалцы жыці,
Рана, рана там русалцы жыці.

Гэтым запрашаваюць русалак з лесу ў жыто, каб яны дапамагалі ураджаю, бо сьвято апрача гульняў мае і сваё практычнае назначэньне—вымаліваць добры ураджай.

Яшчэ болей практычнасьці вызначаецца пры завіваньні бярозавых вянкоў:

Пойдзем, дзеванькі,
Ва лугі-лужочкі
Завіваць вяночкі.
Мы заўём вяночкі

На годы добрые,
На жыто густое,
На ячмень каласісты,
На авёс расісты,
На грачыху чорную,
На капусту белую і г. д.

Гэтае завіваньне вянкоў з бярозак маець сілу заломаў (гл. „Бѣлорусы" том III Карскага), каторые ня шкодзяць, як звычайны вядзьмарскі залом у жыце, а наадварот, дапамагаюць ураджаю. Гэтая песьня служыць тут загаворам—загадам аб добрым ураджаі. Яна і па свайму складу напамінае загавор.

Есьць шмат вар'янтаў русалачных песьняў, але ўсе яны падобные па складу і зьместу адна да адной. Гэта даказавае, што песьні гэтые мелі калісьці адну крыніцу—аднаго аўтора жраца і азначалі малітву пры паганскім набажэнстве.

Народнае сьвяткаваньне разам з прыемным дае і карысьць—малітвы аб ураджаі, бо самае найлепшае сьвято ў земляроба ёсьць тады, калі потная, цяжкая праца шчодра яго корміць. Моцнымі ніцьмі чалавек прывязаны да жыцьця, а жыцьцё падтрымліваецца працай, дзеля гэтага чалавек навет у час сьвяты клапоціцца рознымі спосабамі, каб яго праца не прападала дарма, каб ён меў з яе карысьць.

І вось сьвяткуючы чэсьць вясновага сонца ў Сёмуху, як і пры другіх сьвятах, людзі пакланяюцца у адзін раз тром сілам: абстрактнаму Богу неба і зямлі, сілам прыроды і духам сваіх продкаў. Усё гэта комплектуецца ў адну сілу самабытнай Тройцы, каторая мае сваю няухільную апеку над людзкім жыцьцём.

**З. Бядуля.**

---

# Справа беларускага Нацыянальнага гымну.

Мы, беларусы, дзякуючы усялякім гістарычным і політычным безгалоўям нашай бацькаўшчыны, вечна цягнуліся у хвасьце сваіх суседзяў, ды яшчэ і цяпер ня можамо у шмат якіх справах зраўняцца з імі. Абмінаючы ўсе іншые недахваткі нашага палітычна-дзяржаўнага і нацыянальнага жыцьця, я хачу тут зьвярнуць увагу на справу беларускага нацыянальнага гымну.

Справа гэта вельмі важная і трэба канечна, каб наша ідэёвая інтэлігэнцыя—поэты і композытары заняліся ёй паважна. Бо, праўдзе кажучы, з беларускім нацыянальным гымнам выходзіць нейкая неразьбярыха. Мы і маем свой гымн і ня маем. Чаму гэта так?

Калі заглянуць у далёкую мінуўшчыну, у тые часы, калі існавала незалежная Літоўска-Беларуская дзяржава,—мы з пэўнасьцяй ня можам цьвярдзіць—ці быў тады гымн нацыянальны, ці ня быў. Магчыма, што і быў—можа яго замяняла якая выдатная духоўная песьня. Але рухнула дзяржава, забыў народ і свой гымн-песьню.

У нашы ужо часы (пасьля 1905 г.) зьявілася на сьвет божы некалькі беларускіх гымнаў, такой і іншай ідэёвай і мастацкай вартасьці. Пачатак гэтага зрабіў композытар Рагоўскі, які стварыў музыку да слоў верша Янкі Купалы: «А хто там ідзе?» і назваў гэта гымнам. Далей гэты самы композытар напісаў музыку да верша Каганца: «О, Божа, спасе наш!» і так сама часта нашы сьпевакі называюць гэта гымнам. Далей, да верша Я. Купалы „Не пагаснуць зоркі ў небе..." улажыў музыку Янчук, і так сама назваў гэта гымнам. Хор Тэраўскага у Менску пяе песьню: «Працуй, беларусе...» і так сама называе гэта гымнам. Ды і шмат яшчэ ёсьць усялякіх песен і вершаў якіх ахрысьцілі гымнамі, ня зважаючы на тое, ці яны заслугоўваюць на такую назву, ці не.

І вось з гэткага вялікага ліку «гымнаў» мы ўсё такі ня маемо—сказаў-бы я—прызнанага і усьвенчанага—беларускага нацыянальнага гымну.

Такая пастаноўка гэтай справы часта адбіваецца на добрым імі беларускага народу і няраз ставіць публіку у прыкрае палажэньне, як і было гэта ня вельмі даўно.

З прычыны прыезду Начальніка Польскай Дзяржавы у Менск, у гарадзкім тэатры адбыўся спэктакль, у якім выступаў і беларускі хор Тэраўскага. Хор запеяў нейкую песьню—якая азначала на афішах: «беларускі гымн», але мэлёдыя была незнаёмая, і ніхто ня ўстаў, абражаючы гэтым, якбы здавалося, гонар беларускай нацыі.

І вось трэба увайці у палажэньне шчырага беларускага грамадзяніна: што такі чалавек павінен быў перацярпець у сваёй душы, бачачы гэту нібы зьнявагу. А праўдзе тут і зьнявагі няма, бо няма прызнанага—гэтым-жа беларускім грамадзянствам—свайго нацыянальнага гымну.

Такім чынам, зважаючы на сказанае, справа беларускага гымну павінна быць вырашана і то як найхутчэй. З беларускай марсэльезай справа стаіць якбы лепей: маемо «Адвеку мы спалі» і іншых вершаў з музыкай, называных беларускімі марсэльезамі штосьці ня чуваць. Гэта бадай і лепей.

Як «нацыяналізаваць»—калі можна так выказацца—нацыянальны беларускі гымн з паміж ужо істнуючых гэтых твораў—не бяруся выясьняць. Гэтым павінно заняцца само грамадзянство у асобах сваіх ідэёвых прадстаўнікоў—поэтаў і композытараў.

**К—а.**

---

*Рэдактар—ЯНКА ЛУЦЭВІЧ.*
*Выдавец—ВАЦЛАЎ ІВАНОЎСКІ.*

---

## Ад Рэдакцыі „Рунь".

Рэдакцыя «РУНІ» шчыра просіць сваіх чытачоў і прыхільнікаў прысылаць ей фотографіі і рысункі беларускіх тыпаў, весак, двароў, замчышчаў, мястэчак, гарадоў, гістарычных памятнікаў, а так сама—фотографіі беларускіх нацыянальных гурткоў, сходак, кірмашоў, аматорскіх беларускіх тэатраў і г. д. Кожная фотографія ці рысунак павінны мець апісаньне: дзе калі і кім зроблены (ці сабраны), а так сама назву мясцовасьці і тыпаў (якой губэрні, павету, воласьці).

Усе прысыланае, па надрукаваньні у «РУНІ», будзе з вялікай падзякай зьвернуто уласьнікам.

З дазв. вайсков. цэнзуры. 22-5-1920 № 343. Менск, Друкарня Я. Грынблята, Францішк. 32.